# МЕНСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ.

**З прычыны праваслаўных Каляд газэта „Беларусь“ выйдзе ў суботу, 9-га студня.**

**37 вагонаў штадзённа**, ад паловы студня, подлуг загаду з Варшавы, дающа дзеле дастаўкі прадуктаў першай патрэбы для Менскага округу.

**З прычын сьвята Трох Каралёў** сягодня, 6-га студня, служачые—каталікі, устаноў ад працы вызваляюцца.

**Прыбыў** з закладнікамі вядомы беларусі дзеяч, профэсар Вацлаў Іваноўскі.

**Першая партыя закладнікаў** у 485 чалавек прыбыла ў Менск трэцьцяга дня. Абмен закладнікаў робіцца ў ваколіцы Барысава. Усяго з савецкай Расіі павінна прыбыць каля 15,000 закладнікаў і уцекачоў.

**З Амэрыкі** адтрымана новая сума грошай у 370.000 марак для перадачы мясцовым жыхаром ад іхніх амэрыканскіх сваякоў. Грошы будзе выдаваць цэнтральны камітэт сыяністаў на Беларусі подлуг курсу: за 1 даляр—100 польскіх марак.

**Адміністрацыя** выдала распараджэне аб спыненьні усялякіх перавозак тавараў фурманкамі. Усе тавары павінны перавозіцца толькі па чыгунцы. Гэтае распар джэньне ня тычыцца харчовых прадуктаў.

**Адміністрацыя чыгунак** праектуе новае павялічаньне тарыфных ставак за правоз тавараў па чыгунцы. У першую чаргу будуць павялічаны стаўкі на тавары ня першай патрэбы.

**Зьезд інспэктараў апровізацыі** менскага округу адбудзецца сярэднімі чыслами студня. У канцы студня адбудзецца зьезд рэфэрэнтаў харчовых аддзелаў.

**Зьезд судьдзяў** менскага округу назначаны на 17—18 студня.

**На біржы** ціха. Курс польскіх марак па ранейшаму нізкі. За 500 царскіх плацяць 170—175 польскіх мар. за 100. За соткі—160—165 марак. Разьмен буйных купюр на дробные бяруць 8—10%. За 1000 думскіх—410 польскіх марак і 280 царскіх. 1 сярэб. рубель—23—25 царскіх рублёў. 10 руб. золатам—350—370 царскіх.

**Выдача новых нумараў для фурманоў** адчыняецца заўтра, 7-га студня. Плата для легкавых—100 р. у год.

**Хлеб** у прыватнай прадажы дайшоў да 4 мар. 75 пф. за фунт. На „царскіе“—2 р. 60 к. фунт.

**Солі і цукру**—вялікая партыя прыбудзе хутка ў Менск і будзе перададзена магістрату для раздачы насяленьню.

**На рынку** учора, 5-га студня, цэны былі вось якіе: каўбасы—18 мар. фунт, сало—22 мар., малако—7 мар. кварта, яйкі—20 р. дзесят., дровы—120 р. возік, масло—40 мар. ф., газа—4 маркі фунт, соль—5 мар. фунт, рыба—25—30 мар. фунт, алей—20 мар. фунт.

## Тэатр і мастацтво.

У Пятніцу, 9 студзеня, ў Гарадзкім тэатры ідзе опэрэта Ф. Аляхновіча „На Антокалі“ (Неспадзяванае шчасьце) у 3 акт. Спэктакль ставіць беларуская трупа пад дырэкцыяй Ф. Аляхновіча. Удзел прымаюць ўсе лепшые артыстычные сілы. Рэжысэруе п. Фл. Ждановіч.

**Беларускіе вечарынкі** ладзіць „Т-во Працаўнікоў Беларускага Мастацтва“ 8 і 11 студня ў памяшканьні Цэнтрабелсаюзу (Дамініканская, 50). Пойдзе: 8-га „Ашукаліся“ кам. ў 3 дзеях з хорам—пачатак з 6 гадз.

11-га—Жаніх бяз шлюбу“ кам. ў 1 дзеі, затым „Дывэртысмэнт“—хор, солёвые сьпевы, дэкл. і інш. Пачатак а 7 гадз. Гасьцей уводзяць супрацоўнікі Цэнтрабелсаюзу і сябры Таварыства. Складков. плата—5 руб. У канцы вечарыны танцы да $10\frac{1}{2}$ гадз. вечару.

## Пачтовая скрынка.

*Пану Сяверы.* Допіс Ваш „Новагодніе ўражэньні“ ня можна друкаваць, бо ён ня мае ні грамадзянскага, ні політычнага значэньня. Тым часам, мы вельмі хацелі-б, каб Вы і Вашые таварышы падзяліліся праз нашую газэту з шырокім грамадзянствам вашымі думкамі ў справе культурна-нацыян. і дзяржаўнага адраджэньня Беларусі,-з Вашага партыйнага пагляду. Гэта мы ахвотна выдрукуем.

Што тычыцца „скаваньня,“ то яго нідзе няма, але ёсьць „пашырэньне ганебных чутак“ на праціўнікаў з вашынскіх краёў.

Адкрыйце нам свой партыйны твар, бо ярлык на тавары яшчэ ня сьведчыць аб якасьці самога тавару. Часам гандляры наўмысьле блутаюць напісы, каб падмавуць кліентаў.

*Пану М. Гутароўскаму.* Вашага допісу мы не разумеем: пра якіе лекі вы пішаце, і хто і за што лае настаўніц „зрадніцамі“ і хто гэта іх „церпіць толькі да Каляд“?

*Пану Альфе.* „Пан і тарарыш“ не падходзіць, а „Першай навукі з гісторыі“ цэнзура не прапусьціла.

*Рэдактар—Я. ЛЁСІК.*

*Выдавец — Часовы Беларускі Нацыянальны Камітэт.*

## Абвестка.

Перыядычные курсы вярбунковых агентаў адчыніліся ў панядзелак 5 студня а $9\frac{1}{2}$ гадз. у быўшым Юбілейным доме.

Ад 1 гадзіны быў калёквіум і паверка знаньня беларусазнаўства і выдача білетаў слухачом.

За кіраўніка курсаў **В. Адамовіч.**



З дазв. вайсков. цэнзуры № 4, 6/I.

Менск. Друкарня Інвалідау.